Цана асобнага нумару 20 грошаў.

Opłatę oсztową uiszczono ryczałtem.

# НАША ПРАЦА

Выходзіць два разы у тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.

Нaпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 4 Вільня, Аўторак 11-га кастрычніка 1927 г. Год I



## На ратунак ахвярам стыхійнай катастрофы.

Браты Беларусы! Улетку гэтага году цэлая чарга ўраганаў пранеслася над часткай шматпакутнай нашай Бацькаўшчыны. Сіла гэтых ураганаў была такая вялікая, што шмат дзе зьнішчыла пасевы, зьніштожыла многа сялянскага дабра. Былі навет ахвяры ў людзях.

Цяпер надыходзе зіма, і нешчасьлівыя ахвяры стыхійных катастрофаў стаяць перад страшаком галоднае сьмерці.

Браты Беларусы! Нешчасьлівыя ахвяры разбушаваўшыхся сілаў прыроды спадзяюцца і чакаюць ад нас дапамогі. Яны вераць, што мы ўягім сабе іх няшчасьце і выпаўнім перад імі свой грамадзкі абавязак, яны вераць, што справу іх мы прымем да сэрца і перад абліччам голаду дружна падтрымаем іх сваімі пасільнымі ахвярамі.

Браты Беларусы! Беларускі Камітэт помачы ахвярам стыхійных няшчасьцяў кліча Вас да пасільнай самаахвярнасьці. „З міру па нітцы—голаму сарочка“ — хай будзе нашым лёзунгам.

Вы ўжо сабралі з поля, дык хай-жа частка вашай цяжкай працы будзе ахвяравана на нешчасьлівых нашых братоў. Зьбірайце па ўсіх кутках нашай Бацькаўшчыны ахвяры і прысылайце ў Камітэт, які вашыя ахвяры будзе накіроўваць на месцы катастрофаў. Зьбірайце ўсё, што можа даць наша старонка. Рэчы і прадукты пераводзьце на грошы.

Хай кожная вёска, мястэчка, ці хутар з'арганізуе збор ахвяр, які перасылайце скарбніку К-ту грам. І. Біндзюку (Вільня, Віленская 8, кв. 3).

За інфармацыямі зварачайцеся да сэкрэтара грам. Ул. Павалковіча (Вільня, вул. Сьв.-Ганны 2—3).

**Беларускі Камітэт Помачы Ахвярам Стыхійных Няшчасьцяў.**

**По загаду Камісара Ураду на м. Вільню паліцыя сканфіскавала № 3 „Нашае Працы“ з 8-га кастрычніка за наступныя стацьці: І) перадавіцу п. н. Асаблівая „ўзаемнасьць“—аб польска-літоўскім канфлікце; 2) стацьцю: Мэтаморфозы (Перараджэньне нашае вёскі), у якой гаворыцца аб зьмене настрояў у беларускай вёсцы і прабуджэньні грамадзкага пачуцьця; 3) карэспандэнцыю з Амэрыкі п. н. Просьба эмігрантаў—з крытыкай дзеяльнасьці буржуязных беларускіх дзеячоў.**

Падаючы гэту вестку да ведама нашых чытачоў, мы ня можам прайсьці моўчкі міма гэтае канфіскацыі. Мы лічым яе абсалютна беспадстаўнай.

Перадусім ніхто ня можа забараняць нам выказаць наш пагляд на істоту польска-літоўскага канфлікту і асудзіць гэты канфлікт з пункту гледжаньня інтарэсаў працоўных масаў і Польшчы і Літвы. Другое—наша заява, што ўхіліць такія канфлікты можа толькі ўлада працоўных, а таксама наш заклік да змаганьня за гэту ўладу—ня маюць у сабе нічога „праступнага“, бо польская Канстытуцыя дапускае такое змаганьне шляхам выбарнае барацьбы і здабыцьця большасьці мандатаў у законадаўчых установах. Ні аб якіх *гвалтоўных* спосабах здабываньня ўлады працоўнымі мы ў нашай стацьці не гаварылі.

Што-ж датычыць нарысаваных намі ў ст. „Мэтаморфозы“ настрояў у беларускай вёсцы, якія выявіліся асабліва ў часе апошніх выбараў у самаўрады і ў працы самаўрадаў, а таксама што датычыць карэспандэнцыі з Амэрыкі,—ну, дык тут мы ня бачым ужо абсалютна ніякае падставы да канфіскацыі. Сцьвярджаем, што ўсе паданыя ў гэтых стацьцях факты—бясспрэчна праўдзівыя, ды пераважна ўжо былі падаваны польскай прэсай (інфармацыі аб самаўрадах).

Можам толькі горача пратэставаць проці гэтае канфіскацыі, спадзяючыся, што суд яе мусіць ухіліць з прычыны адсутнасьці праўных падставаў для яе.

**Рэдакцыя.**



## Наш адказ.

Польскі ўрад зрабіў некалькі дробных уступак беларусам і ўкраінцам у школьнай справе.

Наскольні гэтыя ўступы для беларусаў—дробныя, паказуюць лічбы новаадчыняных урадавых беларускіх школ — у адказ на дзесяткі тысяч пададзеных нашым сялянствам школьных дэклярацыяў на родную школу. У Віленскім Школьным Вокрузе іх мае быць сёлета 14, у Палескім (гл. на 3-цяй страніцы гэтага нумару)—ўсяго толькі 5. Дый у гэтых 19-цёх урадавых беларускіх школах, як паказаў прыклад школы ў Старых Габах, бучыць будуць вучыцялі, якім у запраўднай беларускай школе месца быць ня можа!

Праўда, украінцам зроблены больш паважныя ўступкі. На ўкраінскіх землях праводзіца ў жыцьцё загад языковага ўставу з 31 ліпня 1924 году, каб у польскіх гімназіях вучылі-бо і ўкраінскае мовы, а таксама зьліквідованы некалькі польскіх народных школ, дзе існаваньне іх ня мае пад сабой абсалютна ніякае законнае падставы.

Беларускае і ўкраінскае грамадзянства ў свой час, калі ў Сойме праводзіліся языковыя законы для меншасьцяў, выступала вельмі аднадушна і вельмі рашуча *проці* гэтых законаў. Баранілі-ж іх таксама аднадушна і рашуча—ўсе польскія партыі. Але-ж вось цяпер, калі ўрад хоць у маленечкай частцы прабуе тасаваць у жыцьці гэныя законы, дык усе тыя польскія партыі, якія іх тады падтрымлівалі, паднялі страшэнны крык і пратэсты проці „нішчэньня“ ўрадам... польскіх школ на „Крэсах“! Пачаліся мітынгі пратэсту, рэзалюцыі аб зьбіраньні грошы на падтрыманьне „загрожанае“ польскасьці дзяржаўнае школы на „Крэсах“ і т. п.

Ведама, што найбольш крычаць эндэкі, павадыр якіх, Станіслаў Грабскі, якраз сам укладаў языковыя законы, — пэўне-ж, наперад ведаючы, як яны будуць „зьдзейсьнены“. Але вось эндэцкая прэса з трыумфам сцьвярджае, што на „абарону польскасьці на Крэсах“ паўстаюць не яны адны, але і — „дэмакраты“, дый „санатары“. „Газ. Варш. Пор.“ адзначае, што на падмогу эндэкам у гэтай справе ідзе моладзь „дэмакратычная ці санацыйная“, што не адны эндэкі кіруюцца „готэнтоцкай этыкай“....

Гэты пратэст вялізарнай часьці польскага грамадзянства проці правядзеньня ў жыцьцё законаў, якія даюць хоць дробныя правы беларусам і ўкраінцам у галіне асьветы ў роднай мове, зьяўляецца нязвычайна характэрным. Ен паказуе, наскольні глыбака ў псыхіку нашых „валадароў“ пранікла перакананьне, што беларусы й украінцы пад Польшчай мусяць быць спольшчаны за ўсялякую цану. Але пратэст гэты адначасна служыць для нас перасьцярогай, каб не супакоіліся на тым, што ўрад дэкляруе нам даць: бо-ж і проці гэтае драбніцы паўстае — польскае грамадзянства! Дык не супачыць мы павінны, бачучы тую ці іншую ўступку з боку ўлады, але тым больш энэргічна вясьці працу над здабыцьцём роднае асьветы для нашых дзяцей. Калі ў тыя гады мы падавалі школьным уладам на колькінадцаць тысяч дэклярацыяў, дык сёлета мусім падаць колькі дзесяткоў тысяч. Бо толькі такі масавы адказ наш здолее выліць крыху халоднае вады на нецьвярозыя галовы польскіх нацыяналістаў розных кірункаў і адценкаў.

Хто жыў, хто дуж, хай усе бяруцца за работу, хай арганізуюць падачу дэклярацыяў на беларускія ўрадавыя школы ў гэту восень.

Гэта будзе наш найлепшы адказ на распачаты польскім нацыяналізмам новы паход на „Крэсы“.

## Польска-літоўскі канфлікт.

### Пісьмо польскіх вучыцялёў, арыштаваных у Літве.

Віленскія газэты падаюць тэкст пісьма, атрыманага ў Вільні — ад польскіх вучыцялёў, якія пасаджаны ў канцэнтрацыйныя лагеры літоўскім фашыстаўскім урадам.

Польскія вучыцялі ў Літве зварачаюцца да сваіх братоў у Польшчы — з заклікам аб помачы. Яны пішуць, што іх „душаць, пазбаўляюць грамадзкіх правоў, садзяць у вастрогі—толькі за тое, што яны выкладалі польскім дзецям навуку ў роднай мове“... Пішуць, што літоўскі ўрад сее ненавісьць і зло—замест дабра і згоды...

Падпісаны ліст 28 вучыцялямі.

Віленскія літвіны выказваюць вельмі паважныя сумлівы адносна праўдзівасьці гэтага пісьма...

### Пратэст польскіх партыяў у Вільні.

Прадстаўнікі, амаль ня ўсіх польскіх партыяў у Вільні выпусьцілі супольную адозву—проці гвалтаў над польскім школьніцтвам у Літве. У Вільні склікаюць рад мітынгаў пратэстаў.

Ці мы калі бачылі, каб нашы краёвыя польскія палітыкі зрабілі такі крок, калі нешта падобнае тварылася ў нашым краі — „у сябе“ ў адносінах да беларусаў.

### Арышты і вобыскі ў літвіноў у Польшчы.

Пасьля адпаведнае падгатоўкі варожага да літвіноў настрою ў віленскай прэсе, урад распачаў рэпрэсіі да польскіх грамадзян літоўскае нацыянальнасьці і да літоўскіх культурна-асьветных устаноў—у адказ на палітыку літоўскага фашыстаўскага ўраду.

Уноч з 4-га на 5-ае кастрычніка ў Вільні і тых паветах, дзе жывуць літвіны, адбыўся рад вобыскаў і арыштаў. У Вільні заарыштаваны: старшыня асьветнага таварыства „Рытас“ кс. Краўяліс, кс. Ракштуліс, кс. Пашкун, кс. Чыбірас, кс. Беляўскі, кс. Карвэйц, Марыя Гірдзель, Альжбета Лукашэвіч, Уршуля Стэфановіч, Лешкевіч, Алекса, Марыя Жукоўская, Вайштунас. На правінцыі: кс. Міхайло ў Колтынянах, кс. Бобія у Прыязьні, кс. Крыштофаніс у Гадуціжках, кс. Корвяліс у Алькеніках, кс. Рукас у Марцінканцах.

Заарыштаванага ў Вільні ведамага капэратара Каразію выкінулі за межы Польшчы.

### Разгром літоўскіх школ.

**Польскія ўлады зачынілі літоўскую вучыцельскую сэмінарыю ў Вільні і 48 прыватных літоўскіх школ таварыства „Рытас“,—у тым ліку: 25 школ у Віленска-Троцкім пав., 18 у Лідзкім і 5 у Сьвянцянскім.**

### Урадавая маніфэстацыя.

**9-га кастрычніка — у сёмыя ўгодкі заняцьця Вільні (— па прыказу марш. Пілсудскага) войскам ген. Жэліговскага — у Вільню прыехаў бязмала ўвесь польскі ўрад з марш. Пілсудскім на чале.**

Гэта раўназначна заяве ўраду, што справа аддачы Вільні Літве—выключаецца...

Асаблівую ўвагу зварачала на сябе прысутнасьць у Вільні заступніка міністра заграпічных спраў, Рамана Кнольля.

Сярод грамадзянства зразу ж пачалі хадзіць розныя сэнсацыйныя гутаркі і чуткі. Гаварылі аб магчымасьці нейкага ішчэ больш рашучага кроку проці Літвы, зробленага — з Вільні.

У адозвах арганізацыяў былых вайсковых выразна йдзе гутарка аб патрэбе быць гатовымі на ўсё. Палякі з Ковеншчыны, якія жывуць у Польшчы, з свайго боку выпусьцілі адозву з заклікам да марш. Пілсудскага, каб узнавіў колішнюю дзяржаўную еднасьць Літвы з Польшчай, інакш кажучы: далучыў Літву да Польшчы.

### Лятучкі шаўлісаў.

З літоўскай граніцы паведамляюць, што сярод прыгранічнага насяленьня раскідаецца шмат лятучак, якія заклікаюць да вайны з Польшчай. Лятучкі надрукаваны ў літоўскай і жыдоўскай мовах.

### Пратэст П. П. С.

„Роботнік“ піша, што, няма, нажаль, сумліву ў тым, што рэпрэсіі проці літвінаў-грамадзян Польшчы — зроблены, як „адказ“, як „здача“ — за правакацыйную палітыку літоўскіх уладаў. Але газэта „лічыць сваім абавязкам сумленьня падняць публічна голас рашучага пратэсту“ — проці гэтых рэпрэсіяў.

„Канстытуцыя Польскай Рэспублікі запэўняе ўсім грамадзянам дзяржавы — бяз розьніцы нацыянальнасьці — ясна азначаныя правы. Дык ніякая правакацыя з боку ўраду чужаземнай дзяржавы ня можа быць прычынай для скасаваньня гэтых правоў“...

„Арыштаваньне каго-небудзь, ці зачыненьне якой школы — дзеля таго, што ўрад суседняй дзяржавы скандальна паступае адносна да сваіх грамадзян — палякаў, — пярэчыць Канстытуцыі, пярэчыць павазе Рэспублікі“... і т. д.

„Маем маральнае права заявіць ад імя польскай работніцкай клясы, што лічым тактыку польскіх уладаў у гэтай справе—падляганьнем націску з боку польскага нацыяналізму з яго безадказнымі настроямі таўпы“...

## Цікаўная брашурка.

П. Мацкевіч, рэдактар віленскага „Слова“, органу ўрадавых абшарнікаў-манархістаў, выдаў брашурку пад характэрным для сябе і сваіх хлебадаўцаў назовам „Кропкі на і“, якая вельмі цікаўна асабліва ў гэты мамэнт. З гэтай брашуркі можна даведацца аб шырокай „вонкава-палітычнай праграме“ — „абозу абшарнікаў-пілсудчыкаў“ у Польшчы.

Паны абшарнікі асабліва — з нашых „крэсаў“, у апошнія часы пакінулі эндэцыю і пайшлі за Пілсудскім — затым, што „вузкі дзяржаўна-палітычны гарызонт“ эндэцыі абмяжоўваецца імкненьнем стварыць з Польшчы „нацыянальна польскую дзяржаву“... — усё, што можна спольшчыць, трэба спольшчыць без цэрамоніяў; ад таго, што не далося, ці мо' — ня дасцца, трэба адступіцца... „Дзяржаўная ідэя“ абшарнікаў-пілсудчыкаў—без прыраўнаньня больш „шырокая“: Польшча, кіраваная Пілсудскім, павінна стварыць шмат-народавую дзяржаву, каб зрабіцца за праўды Вялікай Польшчай, якая толькі здолее ўтрымацца паміж Нямеччынай і Расеяй...

Гэта ідэя выразнага польскага імпэрыялізму, „ідэальна“ разьвітага польскім рамантызмам, рэальна можа быць зьдзейсьнена „апошнім запраўдным рамантыкам“ — Пілсудскім.

На шляху да рэалізаваньня гэтай польскай ідэі, ведама-ж, стаяць розныя ...пераш-

